ЗВАРОТ

## Аб прызнанні выбараў

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і ягоны намеснік Яраслаў Раманчук перадалі кіраўніцтву ПАСЕ і Савета Эўропы зварот, падпісаны шасцю патэнцыйнымі кандыдатамі на пасаду прэзідэнта і лідэрамі вядучых палітычных партыяў. У дакуменце паведамляецца пра сітуацыю, што склалася з фармаваннем выбарчых камісіяў.

У звароце ўтрымліваецца заклік разглядаць фармаванне камісіяў у прамой сувязі з пытаннем аб прызнанні вынікаў выбараў. Зараз чакаецца адказ на дадзены зварот.

Язэп ВЕРБНІЧ

## Са школы — у турму

Закрытую раней інфармацыю аб колькасці асуджаных непаўнагадовых не ўтойваюць зараз праваахоўныя інстанцыі на Брэстчыне. Відавочна, што маўчаць — сабе шкодзіць.

У 2000 годзе, прыкладам, судовая машына не змагла б без прыцягнення ўрачоў, псіхолагаў і педагогаў вынесці справядлівыя пакаранні 525 маладым людзям школьнага ўзросту.

Новае заканадаўства ў выглядзе Крымінальна-Працэсуальнага кодэкса спарадзіла яшчэ большую лаву судовых справаў аб злачынствах непаўнагадовых. Карніцкая накіраванасць крымінальных артыкулаў, калі 114 з іх кваліфікуюць цяжкія злачынствы, прымушае суды пераходзіць да практыкі рэальнага пазбаўлення волі непаўнагадовых, і ўжо зараз у Беларусі 34% асуджаных з іх адбываюць пакаранне за кратамі.

Мікола НЯЗЛОМНЫ

СУСЕДЗІ

## Літоўскія бізнесоўцы ў Мінску

Дзелавая місія бізнесменаў з Вільнюса прыбыла ў Мінск раніцай 28 чэрвеня. У складзе дэлегацыі, якую ўзначальвае генеральны дырэктар АТ «Аліта», член прэзідыума Вільнюскай палаты гандлю, прамысловасці і рамёстваў Вітаўтас Юнявічус, кіраўнікі 13 літоўскіх фірмаў, якія прапаноўваюць паслугі лагістыкі, праектавання, будаўніцтва і рэканструкцыі жылых дамоў, транспарціроўкі грузаў марскім шляхам праз Клайпедскі порт, а таксама ўпакоўку, аўдыё- і відэатэхніку, адзенне і іншыя тавары.

Сустрэча дзелавых колаў Беларусі і Літвы пачалася з традыцыйнага семінара па пытаннях знешнеэканамічнай дзейнасці ў Беларусі. Вітаючы ўдзельнікаў семінара, першы віцэ-прэзідэнт Беларускай гандлёва-прамысловай палаты Валерый Анапрыйчук адзначыў, у прыватнасці, што цяперашняя сустрэча ў Мінску праводзіцца ў рамках пагаднення аб супрацоўніцтве паміж БелГПП і Вільнюскай палатай, падпісанага 12 чэрвеня гэтага года ў Вільнюсе падчас Дзён эканомікі і культуры Беларусі ў Літоўскай Рэспубліцы.

Ірына САЗАНОВІЧ



# Міліцыя дзейнічае ламамі

27 чэрвеня ў Крычаве каля 7 гадзінаў раніцы ў дзверы кватэры Няроўнага Сяргея, галоўнага рэдактара газеты «Вольны горад», пачалі моцна грукатаць. Гаспадар высветліў, што гэта супрацоўнікі міліцыі, якія не маюць ордэра на вобшук.

Супрацоўнікамі міліцыі ў ход былі пушчаныя ламы — і ўваходныя дзверы аказаліся практычна разламанымі. Пры гэтым у кватэры быў абрэзаны тэлефон і адключаная электрычнасць. Дзякуючы таму, што дзверы былі замацаваныя ўнутры дошкай, у памяшканне ўвайсці не ўдалося.

С.Няроўны падаў заяву ў пракуратуру Крычава на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі, бо палічыў спробу пранікнення ў кватэру незаконнай.

Гэта ўжо другая спроба міліцыянтаў патрапіць у кватэру рэдактара газеты «Вольны горад». Першая адбылася 25 чэрвеня, калі супрацоўнікі міліцыі ачапілі дом і чакалі некалькі гадзінаў ордэру на вобшук. Але пракурор адмовіўся даваць санкцыю на вобшук кватэры, таму што для гэтага не было ніякіх падставаў — і міліцыянтам прыйшлося пайсці.

Усе гэтыя спробы міліцыі патрапіць у кватэру галоўнага рэдактара газеты звязаныя з камп'ютэрнай тэхнікай, якую выкарыстоўваюць пры падрыхтоўцы газеты, і, магчыма, з жаданнем міліцыі паглядзець на гэтую тэхніку.

Праваабарончы цэнтр «Вясна»

УЛАДА

# Сівакоў «выбівае» зарплату

Былы кіраўнік сілавога ведамства Юры Сівакоў, выпадкова не пазбаўлены за час свайго «прастою» грамадскай пасады старшыні савета Беларускага фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама», вымушаны зараз ездзіць па рэгіёнах і вымагаць 100-доларавай зарплаты на фабрыках, дзе раней шылі трусы і майкі для фізкультурнікаў-міліцыянераў. «Дынама» мае 8 такіх прадпрыемстваў, і ніводнае з іх нельга лічыць прыбытковым. Каб не страціць нерухомасць, міліцэйскую фабрыку-банкрута ў Брэсце заклалі статутнай доляй капіталу беларуска-італьянскага СП «Дынама Праграм Брэст». 50% долі заможнікаў — найноўшае абсталяванне. 90% гатовых вырабаў вывозяць італьянцы, а 10% прадаецца на ўнутраным рынку. Партнёры з Апенінаў не робяць сакрэту з таго, што ім выгадны бізнес у Беларусі толькі з-за таннага кошту кваліфікаванай рабочай сілы. 110 тысячаў рублёў сярэднямесячнага заробку — гэта мізэр ад таго, што атрымлівае за працу меншай тэхналагічнай інтэнсіўнасці швачка-найміта на фабрыках фірмы-партнёра «Уніформ Праграм» у Італіі.

Ад астатніх 7 дырэктараў «дынамаўскіх» фабрык, якія былі выкліканыя ў Брэст, Сівакоў патрабаваў хаця б адпаведнага ўзроўню зарплаты.

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

ЛЮСТЭРКА



Фота Ул.ШЛАПАКА

Святы дзень - у вёску прыехала аўталаўка

## Мінная праблема

На сустрэчы спецыялістаў у галіне ліквідацыі супрацьпяхотных мінаў з Расіі, Украіны і Беларусі, якая завяршылася 27 чэрвеня ў Маскве, дасягнутая дамоўленасць аб выкарыстанні расійскіх распрацовак у галіне дэмілітарызацыі СПМ метадам цэментацыі.

Пасля заканчэння кансультацыяў, прысвечаных праблеме ліквідацыі запасаў супрацьпяхотных мінаў у святле патрабаванняў Жэнеўскай і Атаўскай канвенцыяў, прынятае рашэнне аб сумесным звароце да грамадскіх арганізацыяў і гуманітарных фондаў сусветнай супольнасці па аказанні дапамогі ў вырашэнні мінных праблемы ў трох дзяржавах.

Нагадаем, што Беларусь гатова падпісаць Атаўскую канвенцыю аб поўнай забароне супрацьпяхотных мінаў, але не робіць гэтага з-за адсутнасці сродкаў на іх знішчэнне. У адпаведнасці з гэтым дакументам, рэспубліка на працягу чатырох гадоў будзе знішчаць прыкладна 4,5 мільёна мінаў. Па ацэнцы заходніх экспертаў, на гэта спатрэбіцца каля 46 мільёнаў долараў. Пры гэтым асноўная праблема для рэспублікі — гэта знішчэнне 3,5 мільёна 70-грамовых касетных мінаў з вадкім выбуховым рэчывам ПФМ-1С (па заходняй тэрміналогіі — «зялёныя папугаі»). У рэспубліцы адсутнічае экалагічна небяспечная тэхналогія дэмілітарызацыі гэтых мінаў, пры знішчэнні якіх выдзяляецца некаторая колькасць сінільнай кіслаты.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

## Расійскія камуністы ставяць на Лукашэнку

КПРФ і яе саюзнікі будуць актыўна падтрымліваць кандыдатуру Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі. Пра гэта заявіў 27 чэрвеня лідэр кампартыі Расіі Генадзь Зюганаў, выступаючы на інтэрнэт-прэс-канферэнцыі ў Маскве. Як перадае РІА «Новости», Генадзь Зюганаў падкрэсліў, што «ў Лукашэнкі ёсць вялікія шансы перамагчы на гэтых выбарах», прызнаўшы пры гэтым, што «ў кожнага ў рабоце ёсць свае цяжкасці і праблемы».

На яго думку, «ад вынікаў гэтых выбараў будзе залежаць умацаванне нашай саюзнай айчыны». Лідэр КПРФ лічыць, што «сітуацыя ў Беларусі зараз развіваецца па югаслаўскім сцэнарыі». Ён абвінаваціў прадстаўнікоў АБСЕ ва «ўмяшальніцтве ва ўнутраныя справы Беларусі».

Зюганаў выказаўся за далейшае ўмацаванне беларуска-расійскага саюза. Ён таксама выказаў перакананасць у тым, што «зараз ёсць магчымасці пашырэння супрацоўніцтва Украіны і Малдовы». «Працэсы інтэграцыі ў СНД будуць набіраць абароты», - заключыў лідэр КПРФ.

Аляксей АРЭШКА

## Не аддалі каня

26 чэрвеня на ўчастку Лідскага пагранатрада, паблізу дзяржаўнай мяжы з Літвой, пагранічным нарадам была заўважаная група людзей, якія вялі ў бок сумежнай дзяржавы каня.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, пры спробе затрымаць невядомых, тыя кінулі каня і зніклі на тэрыторыі Літвы. Цяпер жывёліна знаходзіцца ў часовым захоўванні ў адным з прыгранічных калгасаў; высвятляецца, каму яна належыць.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

## Брытанскі праект для Палесся

У еўрапейскі Спіс водна-балотных угоддзяў міжнароднага значэння рэкамендавана ўключыць рэспубліканскі заказнік «Спорава», што месціцца на тэрыторыі 19,4 тысячы гектараў у межах Бярозаўскага, Драгічынскага, Івацэвіцкага і Іванаўскага раёнаў. Эксперты лічаць яго натуральным нізінным балотам з унікальным складам флоры і фаўны.

На жаль, Беларусь да цяперашняга часу не далучаная да Рымсарскай канвенцыі і не атрымлівае наўпрост міжнародную фінансавую падтрымку экалагічных праектаў на захаванне нізінных балотаў. Аднак, каб прадухіліць непажаданыя наступствы ад гаспадарчай дзейнасці, на ўзроўні нацыянальных прыродаахоўных арганізацыяў брытанскае «Караляўскае таварыства аховы птушак» і таварыства «Ахова птушак Беларусі» «пры партнёрстве з брытанскай дабрачыннай арганізацыяй «Дарвінаўская ініцыятыва для знікаючых відаў» і Праграмай развіцця ААН заснаваны зараз міжнародны экалагічны праект. У яго фармаце ўжо вядзецца знешняе фінансаванне даследчых экспедыцыяў на тэрыторыі заказнікаў «Спораўскі», «Сярэдняя Прыпяць», «Альманскія балоты».

Галіна БАРАВАЯ

МЕДЫЦЫНА

## Ратаванне сэрцаў

Сёлета колькасць аперацыяў на сэрцы, што праводзіцца беларускімі спецыялістамі, узрасце больш як у два разы, паведаміў галоўны кардыяхірург міністэрства аховы здароўя Беларусі Юрый Астроўскі.

Паводле звестак Еўрапейскай акадэміі навук і мастацтваў, аптымальная колькасць штогадовых кардыяхірургічных аперацыяў на адкрытым сэрцы павінна складаць 1 тысячу на мільён насельніцтва, у тым ліку 140 — у дзяцей. «Такім чынам, ідзяльныя лічбы, якія вырашаюць усе праблемы хірургічнай карэкцыі прыроджаных парокаў сэрца ў дарослых і дзяцей, для Беларусі павінны складаць адпаведна каля 10.000 і 1.400 аперацыяў у год», — сказаў Астроўскі. Паводле яго словаў, калі ўлічыць, што 60% аперацыяў для дзяцей, хворых на прыроджаныя парокі сэрца, павінны выконвацца ў першы год жыцця дзіцяці, мінімальная колькасць неабходных хірургічных умяшальніцтваў складае прыкладна 800 у год. Разам з тым, паведаміў спецыяліст, летась у Беларусі было праведзена ўсяго 512 аперацыяў на сэрцы ў дарослых і 249 — у дзяцей.

Сёлета ўсе дзеючыя ў Беларусі тры кардыяхірургічныя цэнтры плануюць правесці каля 1.100 аперацыяў на спыненым сэрцы са штучным кровазваротам. Такім чынам, сказаў Астроўскі, «мы выйдзем на паказчык у 110 аперацыяў на адзін мільён насельніцтва, у той час як у Расіі ён складае каля 30». Разам з тым, падобны паказчык у Літве дасягнуў 400, а ў Польшчы — каля 700 кардыяхірургічных аперацыяў у год.

Марат ГАРАВЫ

ПОБЫТ

## Падаражэлі камунальныя паслугі

Пасля месячнага перапынку працягваецца рост тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва.

У чэрвені на 3,3% павялічыліся кватэрная плата (тэхабслугоўванне) і плата за карыстанне ліфтам, на столькі ж падаражэлі газ, халодная вада і каналізацыя, вываз і абясшкоджванне адходаў, на 35% — гарачая вада.

У абсалютных лічбах для жыхароў Мінска тарыф на халодную ваду і каналізацыю павысіўся з 73,6 да 76,1 рубля за кубічны метр, газ — са 174,7 да 180,5, вываз адходаў — з 77,7 да 80,26 рубля, абясшкоджванне адходаў — з 50,5 да 52,17, плата за карыстанне ліфтам — з 89,3 да 92,25 рубля на чалавека. Кошт адной гігакалорыі цеплавой энергіі, што ідзе на падаграванне вады, павялічыўся з 2.711,6 да 3.660,6 рубля.

Стаўка кватэрнай платы (тэхабслугоўвання), адзіная для ўсёй рэспублікі, вырасла з 10,25 да 10,59 рубля за квадратны метр агульнай плошчы.

З пачатку года плата за карыстанне ліфтам узрасла на 24,6%, кватэрная плата (тэхабслугоўванне) — на 24,7%, плата за карыстанне радыёкропкай — на 32,4%, халодная вада і каналізацыя — на 57,2%, гарачая вада — на 63,1%, газ — на 63,3%, вываз адходаў — на 75,1%, абясшкоджванне адходаў — на 75,7%.

БелаПАН

## «Нацыянальны» гучыць ганарова

Урадавай пастановай зацверджанае палажэнне аб прысваенні статусу «нацыянальны» дзяржаўным тэатральна-відовішчным установам Беларусі.

Гэты статус прысвойваецца тэатральна-відовішчным арганізацыям у галіне тэатральнага, харэаграфічнага і музычнага мастацтва з трупамі высокага мастацкага ўзроўню, што ёсць нацыянальным здабыткам. Умовы для прысваення статусу «нацыянальны» такія: як мінімум 25 гадоў існавання, наяўнасць у творчым калектыве, прынамсі, дзесятка артыстаў, узнагароджаных дзяржаўнымі прэміямі, лаўрэата на фестывалях.

На сённяшні дзень падобны статус маюць 4 тэатры. Гэта Оперны, тэатр балета, тэатр імя Янкі Купалы і тэатр імя Горкага. Паводле звестак з аддзела тэатраў міністэрства культуры, разглядаецца пытанне па наданні статусу «нацыянальны» тэатру імя Якуба Коласа ў Віцебску. Апрача важкасці, статус «нацыянальны» дае большы каэфіцыент да заробкаў артыстаў.

Кірэй МАНУЙЛА

## Дыхаць стала лягчэй

Згодна з статыстычнымі дадзенымі міністэрства прыродных рэсурсаў, штогод у атмасферу трапляе 1,3 тысячы тонаў шкодных рэчываў. 3/4 выкідаў з іх «забяспечвае» аўтатранспарт, і толькі 1/4 – прамысловыя прадпрыемствы.

У параўнанні з дадзенымі дзесяцігадовай даўнасці сітуацыю можна лічыць някепскай, бо ў 1990 годзе шкодных рэчываў выкідалася ў 3 разы болей, і 2/3 з іх належала аўтатранспарту. На думку першага намесніка міністра прыроды Аляксандра Апацкага, прычына памяншэння забруджанасці хаваецца, па-першае, у павелічэнні долі замежнага аўтатранспарту на нашых дарогах, якія па тэхналогіях больш экалагазберагальныя; падругое, у агульным забеспячэнні прамысловых прадпрыемстваў ачышчальнымі збудаваннямі.

Гэтаксама справа і ў скарачэнні шматлікіх прадпрыемствамі сваёй вытворчасці з-за эканамічных цяжкасцяў.

Самае забруджанае паветра ў Мінскай вобласці, а сярод гарадоў лідзіруе Наваполацк, а за ім ідзе Мінск. Па запыленасці сталіцу за 20 гадоў перагналі Мазыр і Пінск. Менш за ўсіх бруду ў аршанскім паветры.

Алена ЛАБАНАВА

# Мясникович не нашел компромата

*В скором времени молодым специалистам будет предоставляться до половины вводимого на селе жилья.*

Об этом говорится в докладной записке № 12/126 «О ротации председателей горрайисполкомов, председателей колхозов и директоров совхозов», подготовленной администрацией президента во исполнение его поручения о проверке случаев необоснованного назначения руководителей, скомпрометировавших себя на прежних должностях.

Кроме того, в этом документе, подписанном главой администрации М.Мясниковичем, поддерживаются предложения председателей облисполкомов и райисполкомов, о «непривязке» зарплаты руководителей сельхозпредприятий к результатам их работы в первый год их пребывания в должности. Потому что ситуация с кадрами этого звена сложилась аховая: подавляющее большинство председателей колхозов и директоров совхозов увольняются по собственному желанию. В 1999-2000 гг. с такой формулировкой уволились 763 руководителя.

В настоящее время на руководящих должностях работают 167 председателей горрайисполкомов и 2.330 председателей колхозов и директоров совхозов. За прошедшие два года заменено 62 работника из первой категории и 1.170 – из второй.

Таким образом, почти половина руководителей сельхозпроизводства представлена новичками, с которых нельзя спрашивать за получаемые хозяйствами результаты.

В настоящее время среди председателей колхозов и директоров совхозов 57 человек имеют возраст до 30 лет, 601 – до 40 лет, что составляет 20,4 процента от численности работников этой категории. Возраст 71 руководителя достиг пенсионного.

С пенсионеров, понятно, спрос тоже невелик. Поэтому администрация президента озаботилась кадровой ситуацией и обязала облгоррайисполкомы пересмотреть состав лиц, включенных в резерв для замещения должностей председателей исполкомов, их заместителей и руководящих хозяйственников. Помимо профессионализма, важным критерием является возраст: кандидаты на роль председателей исполкомов, как правило, должны иметь возраст до 40, кандидаты на должности их заместителей, руководителей хозяйств и специалистов – до 30 лет.

Как отмечается в докладной записке, проверкой не установлено ни одного факта перестановки бывших председателей горрайисполкомов и глав администраций районов в городах, которые не справились с порученным участком работы или скомпрометировали себя, на другую руководящую работу в органах государственного управления.

Большая часть освобожденных от должностей лиц перешла на работу в организации негосударственной или смешанной форм собственности. Ряд бывших руководителей выехали на работу за рубеж.

Как тревожный факт отмечено, что все еще медленно снижается количество руководителей, освобождаемых от занимаемых должностей за злоупотребление служебным положением, ненадлежащее исполнение служебных обязанностей.

Что же в итоге получается? Бремя власти, налагаемое нынешним режимом на номенклатурную и хозяйственную элиту, становится неподъемным. Иными словами, материальные, психологические и прочие преимущества высокой должности не способны компенсировать те потери, которые эта должность приносит чиновнику. Вышестоящие терзают его проверками, накачивают указаниями и требуют беспрекословного их исполнения, грозят судом скорым и неправедным. В то же время финансовое состояние предприятий и территорий таково, что не позволяет добиваться требуемых результатов. Отсюда стремление уйти от такой власти по собственному желанию, не ожидая, пока «уйдут» по криминальной статье или по обвинению в нерадивости.

Второй вывод. Власть, конечно же, обеспокоена перспективой, кадровые резервы ей нужны. Но еще больше ее тревожит настоящее. Ведь «вертикальщики», которые норовят сбежать с должности, это такой «административный ресурс», от которого нельзя ожидать особого рвения в обеспечении нужных результатов на предстоящих президентских выборах. Очевидно поэтому Лукашенко решил поискать среди них тех, кто себя уже скомпрометировал однажды. Это ведь, похоже, единственный доступный ему стиль управления людьми.

А Мясникович, что интересно, таких не нашел.

**Константин СКУРАТОВИЧ**




## Расія дасць крэдыт для пагашэння ранейшых даўгоў

Міністэрства фінансаў Расіі пацвердзіла сваю гатоўнасць выдаць Беларусі дзяржаўны крэдыт пасля ўрэгулявання рэспублікай пытанняў пагашэння ранейшай запазычанасці. Пра гэта БелаПАН паведаміў прэс-сакратар міністэрства фінансаў Беларусі Міхаіл Валькоўскі.

Паводле яго словаў, размова ідзе аб другой траншы крэдыту ў суме 70 мільёнаў долараў ЗША. Першая ж транша ў памеры 30 мільёнаў долараў «практычна атрыманая». Інакш кажучы, гэтая сума залічаная расійскім бокам у кошт пагашэння ранейшых беларускіх даўгоў.

Беларусь мае запазычанасць перад Расійскай Федэрацыяй па тэхнічных крэдытах, атрыманых у 1996-98 гадах. Гэта таварныя звязаныя крэдыты, якія рэспубліка брала пад пастаўкі пэўных відаў прадукцыі – камбайнаў, рухавікоў, медыкаментаў.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН**

## У Беларусі лепш, чым у Паўночнай Карэі

Кансультацыі, якія праводзяць у Мінску прадстаўнікі Сусветнага банка (СБ), афіцыйных структураў і грамадскіх арганізацыяў Беларусі, дазволілі пачуць ад прадстаўнікоў беларускай грамадзянскай супольнасці адказ на пытанне: ці з'яўляецца падыход СБ да аказання дапамогі Беларусі найбольш прымальным у гэтай сітуацыі? Пра гэта заявіў дырэктар аддзела Беларусі і Украіны СБ Люка Барбонэ на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Паводле словаў Люкі Барбонэ, у супрацоўніцтве з Беларуссю Сусветны банк мае намер акцэнтаваць тры кірункі – глабальныя мерапрыемствы, важныя для Беларусі; пытанні, звязаныя з сацыяльнай рызыкай, уключаючы пераадоленне наступстваў чарнобыльскай катастрофы; падтрымка развіцця малых і сярэдніх прадпрыемстваў. Для вырашэння задач у гэтых сферах СБ прапаноўвае камбінаваць такія формы супрацоўніцтва, як правядзенне даследаванняў і крэдытаванне канкрэтных праектаў. «Мы абмеркавалі з урадам умовы, якія неабходна выканаць для поўнамаштабнага крэдытавання, – сказаў Барбонэ. – Гэта – прадастаўленне магчымасці прыватным прадпрыемствам працаваць без умяшання дзяржавы; празрыстасць фінансавай падтрымкі, уключаючы тую, што аказваецца з пазабюджэтных фондаў; выкананне макраэканамічных паказчыкаў, узгодненых з Міжнародным валютным фондам... Мы не задаволеныя тымі ўмовамі, якія склаліся ў краіне для развіцця бізнесу, і хацелі б бачыць фундаментальныя змяненні ў гэтай галіне, каб перайсці да поўнамаштабнага фінансавання».

Паводле словаў Барбонэ, сёння ў Беларусі, у параўнанні з іншымі краінамі свету (выключэнне складае, бадай што, Паўночная Карэя), – найбольш цяжкія ўмовы для рэгістрацыі малых і сярэдніх прадпрыемстваў. Па гэтай прычыне з 1994 года па гэты час колькасць такіх прадпрыемстваў у Беларусі не павялічылася, тады як у свеце адзначаецца іх бурнае развіццё.

Паводле словаў Барбонэ, урад Беларусі «не мае прынцыповых пярэчанняў» супраць асноўных сфераў супрацоўніцтва, вызначаных у праекце стратэгіі. На яго думку, у рэспубліцы існуе «вялікае поле дзейнасці» па спрашчэнні працэдуры рэгістрацыі і стварэнні ў цэлым больш спрыяльнага клімату для развіцця малога і сярэдняга бізнесу.

Пастаянны прадстаўнік Сусветнага банка ў Беларусі Сяргей Кулік адзначыў, што падчас кансультацыяў удалося пасадзіць за стол перамоваў прадстаўнікоў урада і няўрадавых арганізацыяў, якія, паводле яго словаў, нарэшце, змаглі пачуць адзін аднаго. Фінальны раўнд абмеркавання планецца правесці ў кастрычніку гэтага года.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН**

# Перспектывы беларускага флоту

У Гомелі пабудаванае першае беларускае судна тыпу «ракамора» грузапад'ёмнасцю 1,5 тысячы тоны, якое атрымала аптымістычную назву «Надзея». Тым самым зроблены першы крок па рэалізацыі дзяржаўнай праграмы 1997 года па стварэнні беларускага марскога флоту.

У прыватнасці, гэтай праграмай прадугледжанае стварэнне 10 такіх караблёў і 4 марскіх грузапад'ёмнасцю 3-4 тоны. Для гэтага патрэбна каля 40 мільёнаў долараў, але на працягу 4 гадоў ні дзяржава, ні інвестары меркаваных сродкаў на гэта не выдаткавалі.

Са словаў намесніка міністра транспарту і камунікацыяў Уладзіміра Уласеня, на тэрыторыю Беларусі штогод праз мора прыходзіць і сыходзіць да 7 мільёнаў тонаў розных грузаў, а перавозка морам грузаў каштуе 30 долараў за тону. Такім чынам, такое будаўніцтва дало бы нам магчымасць прыцягнуць да сябе тыя 210 мільёнаў долараў, што ідуць зараз замежным суднаўладальнікам.

Таму на дадзеным этапе ёсць намеры фрахтаваць для перавозак замежныя судны пад беларускім сцягам. Але каб гэта стала выгадным, неабходна прынецце нарматыўнага акта «Аб зручным беларускім марскім сцязе», які даў бы караблям, якія ходзяць пад беларускім марскім сцягам, падатковыя прэферэнцыі. У прыватнасці, вызваліў бы іх ад падатку на прыбытак і мытных плацяжоў, якія зараз складаюць прыкладна 10-15% ад кошту судна.

А ўвогуле, паводле У.Уласеня, флот у глыбокім крызісе. Водныя транспартныя перавозкі скараціліся да 20-25% ад аб'ёмаў 80-ых гадоў – гэта прыкладна 2,5 мільёна тонаў перавозак.

Але з фіксацыяй адзінага валютнага курсу ёсць надзеі на актывізацыю вытворцаў па дастаўцы ўласных тавараў, бо дагэтуль гэта ім было нявыгадна. Пакольні перавозкі па вадзе носяць сезонны характар і магчымыя толькі ў перыяд навігацыі – з красавіка па лістапад, то асноўную стаўку ў канкурэнтнай барацьбе з чыгункай водныя транспартнікі робяць на кошт перавозак, які на 1,3 долара на тону меней за чыгуначныя тарыфы.

На сённяшні дзень асноўныя водныя магістралі Беларусі скіраваныя толькі на чарнаморскі рэгіён, бо шляхі да Балтыйскага мора перакрываюць плаціны. У далёкіх задумах міністэрства транспарту і камунікацыяў дамовіцца з суседнімі краінамі аб іхняй дапамозе ў стварэнні двух стратэгічных суднаходных шляхоў, якія змогуць забяспечыць краіне заўжды транзітныя прыбыткі. Першы – Даўгава (Латвія) – Дняпро, які злучыў бы Балтыйскае і Чорнае моры. На думку У.Уласеня, асноўную цікавасць ён уяўляе для краінаў Скандынавіі і Блізкага Усходу, бо такім чынам гандлёвы шляхі паміж імі прыкметна скароцяцца, а зараз яны мусяць праходзіць праз еўрапейскія краіны. Другі мусіць праходзіць праз Буг і Віслу да Рэйна, ён звяжа з Блізкім Усходам краіны Еўропы.

**Алена ПАЗЬНЯК**

# Піярнае будаўніцтва

Увесь цяжар выканання даручэння А.Лукашэнкі па зніжэнні кошту жыллёвага будаўніцтва кладзецца на плечы заказчыкаў, праектных і падрадных арганізацыяў. Аб гэтым заявіў на прэс-канферэнцыі першы намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Анатоль Шаціла.

Як вядома, 13 чэрвеня А.Лукашэнка зрабіў гучную перадвыбарную заяву аб зніжэнні кошту на жыллё на 10% да канца бягучага года і яшчэ на 10% у наступным. Гэта закране толькі жыллё, якое будуецца з фінансавай падтрымкай дзяржавы альбо за кошт уласных сродкаў грамадзянаў, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў жыллі. Такім чынам, усё атрымалася наадварот: замест таго, каб падвысіць мізэрныя даходы насельніцтва, вырашана прымусова прыблізіць кошты жылля да гэтых даходаў.

Каб выканаць абяцанні кіраўніцтва, міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва з 1 ліпеня ўводзяцца межавыя кошты аднаго квадратнага метра агульнай плошчы жылля ў 180-200 долараў у залежнасці ад населенага пункта, пры перавышэнні якіх пачынаць будаўніцтва забаронена. Кошт сялянскай сядзібы разам з гаспадарчымі будынкамі цяпер не можа перавышаць 30 тысяч долараў.

Кошты правядзення экспертызаў праектнай дакументацыі і праектных работ скарачаюцца на 30% і будуць вызначацца адпаведнымі межавымі нормамі. Аднак аднымі адміністратыўна-прымусовымі метадамі на доўгі тэрмін гэтай праблемы не вырашыць. Таму эканамічныя механізмы хоць і другасна, але ўсё ж такі ўжытыя будуць. Напрыклад, толькі за кошт вызвалення некаторай задзейнічанай у будаўніцтве прадукцыі (электрычнасць, металапракат) ад падатку на дабаўленую вартасць можна знізіць кошт жылля на 14%. Але, на думку першага намесніка міністра архітэктуры і будаўніцтва, адміністратыўныя падыходы ніяк не адаб'юцца на якасці будаўніцтва жылля. А вось дужа нявыгаднай справай яно стаць можа. У выніку будаўніцтва пацерпіць ці ў якасці, ці ў аб'ёмах.

**Кірыл ЛАБАНАЎ**

МЫТНЯ

## Кантрабанда

26 чэрвеня памежнікамі Пінскага пагранічнага атрада пабліву пункта пропуску «Макраны» на беларуска-ўкраінскай мяжы ў розны час былі затрыманыя два аўтамабілі, якія рухаліся з боку Украіны.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі, у першым выпадку грамадзянін суседняй дзяржавы спрабаваў увезці ў Беларусь на аўтамашыне «Аўдзі-100» з прычэпам прыкладна 1 тону памідораў, у другім – таксама грамадзянін Украіны, але на МАЗе – 200 кг агуркоў і 200 кг чарэшні. Кантрабандны груз і транспарт перададзены ў мытныя органы, іх ацэнка яшчэ не праводзілася.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты

### Как платят в областях

В Гродненской области на 19 июня задолженность по зарплате составила 1.220 миллионов. Почти столько же, сколько во всех остальных областях вместе взятых – таковы результаты проверки областного комитета госконтроля. Самые большие долги в сельском хозяйстве – около 1 миллиарда. Между тем, долг сельскому хозяйству Гродненщины составляет больше 8 миллиардов рублей. Из них 1,162 миллиарда задолжали бюджетные организации: детсады, школы, тюрьмы. Среди крупных должников сельского хозяйства – торговля, потребкооперация, объединение хлебопродуктов.

### «Фирма веников не вяжет»

До конца нынешнего года предприятия министерства промышленности, выпускающие потребительские товары, планируют открыть 6 новых магазинов. Они разместятся в Брестской, Витебской, Гродненской, Могилевской областях и в столице. За пределами же страны, в том числе и в России, также работают несколько магазинов ПО «Витязь», «Горизонт», ОАО «Мотовело». При некоторых торговых предприятиях действуют центры сервисного обслуживания, работают дилеры.

### Люби денежки платить

Финансовым кризисом для ПО «Белоруснефть» обернулась задолженность потребителей за отгруженный сжиженный газ и нефтепродукты. Впервые за последние годы объединение находится на картотеке. Об этом говорится в письме, направленном руководством объединения в концерн «Белтопгаз», задолжавший около 3 млрд. Как стало известно, концерн не оплачивает поставки сжиженного газа с 4 апреля текущего года. Возможно, что затягивание вопроса расчетов вынудит «Белоруснефть» потребовать от крупнейших должников – «Белтопгаза» (3 млрд.) и предприятия «СГ-транс» (2,4 млрд.) – возмещения стоимости поставленных ресурсов и уплаты штрафных санкций в судебном порядке.

### Легкую промышленность «слегка» трясет

В настоящее время белорусская легкая промышленность находится в тяжелом финансовом положении. Около четверти предприятий убыточны, а неудовлетворительную платежеспособность имеют более половины всех производств. Большинство белорусских предприятий отрасли оказались совершенно неподготовленными к введению единого курса рубля, который привел к резкому – примерно на две трети – сокращению оборотных средств предприятий. После выравнивания курса поставки товаров в торговую сеть республики сократились на 43 процента».

**Андрей КАРПОВИЧ**

# Дух разбуральніцтва

## *Нашы помнікі старажытнасці свядома знішчаюцца, каб не засталося напаміну аб мінулым беларускага краю*

### Што было

Дзіўнае пачуццё зведваеш, трапіўшы ў мясцовасць, за якой цягнецца шлейф гістарычных міфаў. У Гальшанах, напрыклад, надзвычай востра адчуваецца ірэальнасць быцця, нябачная прысутнасць тых, хто жыў даўно, уславіў гэтую зямлю подзвігамі. Флюіды даўніны зачароўваюць, а легенды абуджаюць фантазію. Само адчуванне, што ў гэтым месцы вяршылася наша гісторыя, надае яму асаблівую значнасць.

Князі Гальшанскія працяглы час займалі высокія пасады ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Іх подпісы стаяць на старажытных дыпламатычных актах. У родавай рэзідэнцыі князёў Гальшанскіх двойчы – у 1440 і 1492 гадах – адбываліся з'езды найбольш уплывовых асобаў для выбару прэтэндэнтаў на вялікакняскі прастол. Па жаночай лініі Гальшанскія падняліся да вялікакняжацкага і каралеўскага стану: княгіня Ульяна была апошняй жонкай вялікага князя Вітаўта, а Соф'я Гальшанская стала апошняй жонкай караля Ягайлы.

У 1555 годзе Гальшаны пераходзяць прадстаўнікам другога знакамітага роду – Сапегам. Падканцлер ВКЛ Павел Сапега будуе ў 1610 годзе асабістую рэзідэнцыю – палацава-замкавы комплекс, аналагаў якому на той час у нас не было. Сцены і столь пакояў пакрывалі фрэскавы роспіс і ляпніна, падлога была выкладзеная керамічнай пліткай, печы – адмысловай кафляй. Каміны, партрэты, каштоўная зброя, мэбля ўпрыгожвалі інтэр'еры замка. Вокны, што выходзілі ў замкавы двор, мелі вітражы з тоўстага шкла. У той жа час замак быў абарончым: шасцігранныя вежы, высунутыя за перыметр сценаў, дазвалялі весці бакавы абстрэл ворага.

І яшчэ дзве велічныя каменныя пабудовы ў Гальшанах фундаваў гэты магнат – каталіцкі касцёл і манастыр. Праз стагоддзі касцёл дамінуе над усёй мясцовасцю і ўражвае памерамі і прыгажосцю. Адсутнасць купала надае храму адценне сярэднявечнай суровасці і змрочнасці. Да бакавой сцяны касцёла ў выглядзе літары П – гэтым ствараецца замкнёны ўнутраны дворык – прыбудаваны двухпавярховы будынак манастыра. Галерэі яго першага паверха аб'ядноўвалі кухню, пякарню, васкоўню і трапезную. Наверсе былі размешчаныя келлі і даволі багатая па тых часах бібліятэка.


Гальшанскі замак у часы Паўла Сапегі. XVII ст.

Касцёл гэты многае пабачыў на сваім вяку. Яго зачынялі, разбуралі, апаганьвалі захопнікі. У 1918 годзе ў ім размясціўся рэвалюцыйны камітэт. Бальшавікі тады не паспелі кранучь родавай усыпальніцы пад касцёлам – крыпты, дзе, як вядома, знаходзіліся пахаванні некалькіх пакаленняў Сапегаў. Але калі Заходняя Беларусь стала савецкай, праграма па знішчэнні гісторыка-культурнай спадчыны пачала здзяйсняцца.

### Што стала

Сёння былая рэзідэнцыя падканцлера ВКЛ Паўла Стэфана Сапегі – Гальшаны, якія маглі стаць сапраўдным музеем пад адкрытым небам, месцам паломніцтва замежных і айчынных турыстаў – забытая богам вёска, куды не дабрацца транспартам са сталіцы, дзе не памыцца ў лазні (старая зусім нягодная, а новую няма сродкаў пабудаваць), няма хоць маленечкага гатэльчыка, каб пераначаваць прыезджаму чалавеку. Як абраза нашай чалавечай годнасці застылі пад небам рэшткі велічнага палаца, паглядзець які прыязджаюць школьнікі і знаўцы гісторыі.

Жахліва становіцца, калі даведваешся, як распраўляліся мясцовыя актывісты са спадчынай неўзабаве пасля вызвалення мястэчка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

— З будынка выцягнулі арган, розныя касцельныя прылады, абразы, кнігі і падпалілі, — расказвае жыхарка Гальшанаў, загадчыца філіяла «Манастырскі комплекс XVI–XVIII стагоддзяў» Часлава Акулевіч. – Яркае полымя бушавала паўдня, і ўвесь гэты час вернікі стаялі на каленях і маліліся побач.

Не можа забыць Часлава Францаўна і як будавалі пасля вайны ў мястэчку Дом культуры. Мясцовае начальства загадала даставіць па 80 цаглінаў на новабудоўлю. Адкуль бы вы думалі? Ды з замка, які стаяў як маналіт, непадуладны непагадзі і часу. Але супраць лому, як вядома, няма прыёму... Піянеры і камсамольцы працавалі з энтузіязмам, з цяжкасцю выбіваючы са сцен неабходныя цагліны. У той час нацягалі адтуль будаўнічага матэрыялу для ўласных патрэбаў і дарослыя дзядзькі, якія ўзвялі з чырвонай цэглы, пазначанай індывідуальным «кляймом» майстра, зрабіўшага іх у XVI стагоддзі – адбіткам уласнай рукі, моцныя дамы. Яны стаяць і цяпер на гальшанскіх вуліцах як знакі бездухоўнасці грамадства, якое публічна заяўляла аб высокіх і гуманных ідэалах.


Той жа Гальшанскі замак у нашыя дні

Вандалізм на замку працягваўся да той пары, пакуль аднаго з «актывістаў» не прыбіла рухнуўшая сцяна. Гэта было ўспрынятае як пакаранне Божае. І людзі троху супыніліся. Але ўжо была разрабаваная вандаламі крыпта Сапегаў. Змагаючыся з рэлігіяй, савецкая ўлада зачыніла касцёл, разагнала манахаў, што жылі ў манастыры, а ля сцен скалечанага палаца, здзекуючыся над гісторыяй, пабудавала жывёлагадоўчы комплекс. Тэрыторыя вакол замка ператварылася ў смярдзючае балота.

Надмагілле Сапегаў, зробленае з мармуру, ужо пашкоджанае, ледзь не вывезлі ў 1970-ых да сябе літоўскія музейшчыкі. Ратавала яго не мясцовая ўлада, не міністэрства культуры, а маладыя беларускія вучоныя з Нацыянальнай Акадэміі навук, якія перавезлі помнік у Мінск, цяпер ён у музеі старжытнабеларускай культуры.

Міністэрства культуры Беларусі, як знак наступіўшых пераменаў, павесіла ў пачатку 80-ых гадоў на рэштках сценаў замка шыльду з дурашлівым надпісам «Руіны замка», быццам і гэтак не бачна, што засталіся адны руіны.

Цяпер касцёл зноў дзейнічае. У час службы гучыць стогадовая фісгармонія. Цудам захаваліся тут фрэскі XVIII стагоддзя – герб Сапегаў у бакавым нефе і грандыёзны роспіс у алтарнай частцы.

Будынак манастыра, як кажуць спецыялісты, захаваўся дзякуючы таму, што яго ўвесь час выкарыстоўвалі: тут знаходзіўся то дзіцячы дом, то прытулак для старых. Частка манастыра па-ранейшаму належыць касцёлу, а частка – аддадзеная пад філіял Нацыянальнага Мастацкага музея. Рэстаўратарамі было зроблена тое-сёе ў манастырскім комплексе, адзінай пабудове, што не перараблялася з часоў яе ўзвядзення: адрамантаваны дах, расчышчаныя і забетаніраваныя склепы, сцягнуты разлом, што пайшоў па ўсім будынку. Але счарнелыя рыштаванні вакол манастыра і касцёла сведчаць, што на іх даўно ніхто не працаваў. Ужо пяты год як спынены, па словах дырэктаркі комплексу, рэстаўрацыйныя работы. Нядаўна прыязджалі археолагі. У дворыку манастыра яны рабілі раскопкі і знайшлі старадаўні водаправод, якім яшчэ ў XVII стагоддзі карысталіся манахі. Час ад часу тут знаходзяць замураваныя ў скляпенні скульптуры, іншыя каштоўныя рэчы, якія нехта невядомы спрабаваў уратаваць ад знішчэння. Частку гэтых экспанатаў можна ўбачыць на стэндах музея. Дарэчы, тут пастаянна працуюць выставы, асноўнымі наведвальнікамі якіх з'яўляюцца школьнікі, мясцовая і прыезджая моладзь. Людзей старэйшага веку супрацоўнікі музея пускаюць нават без білетаў, але тыя ўсё роўна не ідуць, мастацтва, кажуць, іх мала цікавіць, ніякага інтарэсу да існуючых у іх пад носам помнікаў яны не праяўляюць, старадаўняя архітэктура для іх – паўсядзённасць. Без усякіх ілюзіяў на сваю будучыню глядзяць гэтыя людзі. Яны не вераць, што нешта можа змяніцца ў лепшы бок, што спадчына, якая сёння гібее, магла бы працаваць на іх дабрабыт і будучыню. І яны недалёкія ад разумення ісціннага становішча справаў. Усе размовы аб магчымасці камернай, фрагментарнай рэстаўрацыі ў замку, кансервацыі рэштаў, упарадкаванні тэрыторыі засталіся пустым гукам. Грошай на гэта ў дзяржавы не было, няма і, калі нічога не зменіцца, то і не будзе. Хоць знаходзяцца яны на рознага кшталту палітычныя мерапрыемствы.

**Ганна ПІЛАТОВІЧ**

# Славянскія прэтэнзіі на вядучую ролю

*27 чэрвеня каля манумента Дружбы, размешчанага на стыку межаў Беларусі, Расіі і Украіны, А.Лукашэнка сустрэўся з маскоўскім патрыярхам Аляксіем II і перадаў дзве харугвы коштам 100 тысяч долараў для храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве. Цырымоніі была нададзеная ўрачыстасць сімвалічнага свята.*

У гэты ж самы час у Львове праходзіла набажэнства, якое папа рымскі Іаан Павел II служыў для вернікаў грэка-каталіцкага абраду. На літургіі прысутнічала каля 1,5 мільёна чалавек, сярод якіх былі паломнікі з розных краінаў і кантынентаў. У гэты ж дзень улады Львова абвясцілі папу Іаана Паўла II ганаровым грамадзянінам Львова. Увечары пасля паўторнай сустрэчы з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам пантыфік вярнуўся ў Ватыкан.

Паралельна праходзілі провады Лукашэнкам у расійскую сталіцу маскоўскага патрыярха, адоранага харугвамі.

Называючы царкоўныя харугвы дарам беларускага народа, Лукашэнка параўнаў па духоўнай значнасці аднаўленне ў Беларусі «крыжа Еўфрасінні Полацкай», а ў Расіі — храма Хрыста Збавіцеля. «Мы ганарымся гэтым велічным помнікам гісторыі і сучаснага духоўнага адраджэння нашых народаў», — выказаўся Лукашэнка пра храм Хрыста Збавіцеля. Між тым крыж – гэта копія, зробленая па фотаздымках, твор сучаснага мастацтва, і «крыжам Еўфрасінні Полацкай» ніяк называцца не можа. Паколькі ён асвячоны мітрапалітам Філарэтам, дык больш правільна казаць, што гэта — крыж патрыяршага экзарха. Бо не датыкаліся да гэтага новастворанага крыжа рукі ўнучкі Усяслава Чарадзея, не рабіў яго Лазар Богша, не маліліся на гэты крыж дзесяткі пакаленняў людзей. Гэта – каштоўны муляж. Такую ж вартасць копіі мае і адноўлены ў Маскве храм, які мае ад знішчанага арыгінала толькі назву.

Зразумела, што месца для атрымання патрыярхам «дарунка беларускага народа» было абранае невыпадкова, і палітычны падтэкст акцыі немагчыма прыхаваць. Аляксій II у сваёй удзячнай прамове назваў месца стыку межаў трох дзяржаваў «свяшчэнным». Чаму гэты стык «свяшчэнны», а месца стыку межаў Беларусі, Украіны і Польшчы – «не свяшчэннае», не тлумачыцца. На думку патрыярха, тры народы не жадаюць забыць свайго адзінства, бо яны «хрышчоныя ў адной купелі святым князем Уладзімірам, які завяшчаў ісці шляхам усходняга праваслаўя». Адкуль пра запавет такога накірунку патрыярх даведаўся – таямніца, бо князь Уладзімір памёр за паўстагоддзя да падзелу царквы на Рымскую і Канстанцінопальскую. Ачольнік РПЦ заявіў таксама, што Расія, Украіна і Беларусь павінны «ўсвядоміць сваё духоўнае прызванне», якое заключаецца ў яднанні. У перакладзе на свецкую мову, гэта азначае крытыку Украіны, якая пакуль не імкнецца ў пастку новага «саюза».

З усёй шчырасцю падказкі пра «духоўнае прызванне» прагучалі ў «Звароце» А.Лукашэнкі і патрыярха Аляксія II да народаў Расіі, Украіны і Беларусі з нагоды 60-годдзя з пачатку вайны.

Наўмысна падабраная лексіка гэтага дакумента стварае новую канцэпцыю перамогі ў вайне і наогул этнічна-палітычнай карты Еўропы, адкідаючы ў бок аб'ектыўнасць. Таму ўсе цытаты падаюцца на мове арыгінала. Напалі немцы, а **«миролюбивые и гостеприимные по природе славянские народы были вынуждены взять в руки оружие, чтобы спасти себя и весь мир от опасности уничтожения. Ценой миллионов жизней братские славянские народы отстояли свое право на жизнь».** Хоць крыху дасведчаны ў гісторыі чалавек можа, аднак, запытаць, а нашто «миролюбивые народы» кідалі ў 1940 годзе бомбы на фінскія гарадскія кварталы, везлі эшалонамі на смерць людзей з Эстоніі, Латвіі, Літвы, Заходняй Украіны? А зусім нядаўна праводзілі першую чачэнскую вайну дзеля «захавання канстытуцыйнай прасторы Расіі».

Сёння, як пафасна сцвярджае «Зварот», **«при общемировой тенденции к духовному упадку у славян наблюдается возвращение к традиционной христианской жизни, подлинное религиозное и культурное возрождение. Не случайно многие честные исследователи и простые граждане связывают свои надежды на духовно-нравственное возрождение западной цивилизации в первую очередь со славянским миром».** Нават у параўнанні з хрушчоўска-брэжнеўскай канцэпцыяй «новай чалавечай агульнасці – адзіным савецкім народам» абвешчаны ў звароце «славянский мир» выглядае сярэдневяковым анахранізмам. Такая этнічна дамінаваная ідэя можа запаліць выключна сэрцы ксенафобаў, ды ўсіх, хто з радасцю адгукаецца на расісцкія пачуцці. Пры такім адчуванні выключнасці «славянскай крыві» і «славянскай місіі», безумоўна, прыходзіцца крыўдаваць, што, **«к сожалению, находятся и те, кому не по душе процесс единения славян, их ведущая роль в нравственном преображении мира».** Дзіўна даведвацца, што ёсць *такая вядучая роля* ў беларусаў, рускіх, украінцаў у адносінах да ўсяго свету. Але ці не страшна стане жыць на свеце, калі ён увесь *«пребразится»* на ўсходнеславянскі ўзор – з традыцыйнай пагардай да чалавечага жыцця і годнасці асобы, разваленай эканомікай, беднасцю і традыцыйным хамствам? Які ж, цікава, царкоўны ці свецкі напалеончык пісаў гэтакія палкія тэзы расісцкага кшталту?

Што ж трэба рабіць канкрэтна для ўвасаблення ў жыццё гэтакай вялікай «славянскай» задачы. Адказ не патрабуе хоць якіх развагаў:

**«В этих условиях, мы призываем братские славянские народы не поддаваться соблазну разделений и вражды по религиозным, этническим и политическим мотивам и объединиться во имя покоя и благополучия всех народов планеты».**

Цяжка паверыць у гэтыя заклікі Рускай праваслаўнай царквы тым людзям, хто бачыў па тэлевізары скажоныя злосцю твары ўдзельнікаў «хроснага ходу», арганізаванага РПЦ супраць візіту папы ва Украіну. Паказальна, што ў гэты ж дзень, калі словы пра «пакой» гучалі на «свяшчэнным» месцы, украінскі хросны ход **«Путь православных»** сустрэўся з хросным ходам **«Патриоты России и Белоруссии».** Удзельнікі ўрачыстай акцыі памаліліся, аддаючы папу рымскага анафеме. Для разумення публікай высокіх мэтаў маральнага «преобразования» праваслаўна-славянскія «хадакі» трымалі транспаранты з надпісамі «Прасвославие или смерть» і карыкатурамі на Іаана Паўла II (доказ іхнай здольнасці да хрысціянскай любові).

А на месцы стыку трох межаў аўтары звароту ўрачыста абвясцілі: **«Примером славянского братства может служить союз Белоруссии и России».**

Аднак, ніхто з расійскіх і ўкраінскіх афіцыйных асобаў роўнага рангу на «свяшчэннае» месца далучыцца да такога меркавання сваім подпісам не прыбыў.

**Пётр КЛІМКОВІЧ**

КНІГАРНЯ

## Праз гісторыю — у будучыню




У выдавецтве «Голас КРАЮ» падрыхтаваны і выдадзены даведнік «Беларускі нацыяналізм». Брашура зьмяшчае матэрыялы, прысьвечаныя беларускаму нацыянальнаму руху. У даведніку пададзены зьвесткі пра асобы беларускіх патрыётаў, арганізацыі, асобныя нацыянальныя аддзелы ды фармаваньні.

Каляндар беларускага нацыяналіста дасьць магчымасьць пазнаёміцца з асноўнымі падзеямі гісторыі нацыянальнага руху, жыцьцём ды дзейнасьцю змагароў за Беларусь. Прадстаўленыя матэрыялы ў асноўным асьвятляюць падзеі дваццатага стагоддзя. Мэта даведніка — пазнаёміць з малавядомымі фактамі, лёсамі асобаў, якія наўмысна замоўчваюцца ды перайначваюцца афіцыйнай гісторыяграфіяй. Кніга багатая на фотаздымкі, многія зь якіх друкуюцца ўпершыню.

Даведнік «Беларускі нацыяналізм» ськіваваны на шырокія колы чытачоў, будзе цікавы ўсім, каму не абыякавыя мінулае, сучаснасьць ды будучыня Беларускага Народу, Бацькаўшчыны.

Выданьне можна паглядзець на кніжнай выставе ТБМ (вул. Румянцава, 13), у сядзібе БНФ (вул. Варвашэні, 8), замовіць на сайце *www.spa-kraj.org*.

BELLES LETTRES

## «ARCHE» – часопіс XXI стагоддзя?




Чарговы (другі ў гэтым годзе) нумар часопіса «*ARCHE*» выйшаў з асвятленнем народнай тэматыкі, у прыватнасці сучаснага беларускага нацыяналізму, сутнасць якога давёў да чытача на першых старонках часопіса пісьменнік і публіцыст Сяргей Дубавец. «Сучасны беларускі нацыяналізм – гэта праява арыстакратызму духу і антыпод пралетарскай плебезацыі. Нескладана адчуць сябе арыстакратам духу. Дастаткова адчуць сябе беларусам. Складана зрабіць такі арыстакратызм праектам ці зместам уласнага жыцця. Важна не памыліцца – не азірацца па баках, не імкнуцца да гурту, не дзяліць адказнасці. Нацыяналізм – зусім прыватны ў зародку, ягоная свабода – індывідуальная». Як пісаў Ул.Караткевіч, не трэба двух, каб пачаць.

Тэма нацыяналізму набалелая, але да канца няспраўджанай застаецца яе мэта на Беларусі. Пра вытокі нацыяналізму піша мінскі палітолаг Ул.Роўда, які прапаноўвае даволі арыгінальныя канцэпцыі.

Развагі Кастуся Травеня над прозай Ігара Сідарука, трэба сказаць, вельмі ўдала спалучаныя з вылучэннем носьбітаў некалькіх відаў свядомасці сярод прадстаўнікоў нашага грамадства («чалавек-дзікун», «людзі-дзеці», «троечнікі», «прафесіяналы» і г. д.), прымушаюць пагадзіцца са змрочнай рэальнасцю і з рэальнакіруючай высновай: «Сёння цікавыя тыя, хто адшукаў у сабе і ўдасканаліў свой талент, тыя, хто імкнецца наперад, тыя, хто стварае сучасную цывілізацыю».

«Народны нумар» «*ARCHE*» вызначыўся прысутнасцю фотаздымкаў (няхай нешматлікіх) у раздзеле «архіў», дзе Ілля Куркоў у сваім нарысе «Людзі на зямлі» разважае пра калектывізацыю ў Вілейскай-Маладзечанскай вобласці (1939-1950 гг.).

Прызнацца, нечаканасцю з'яўляецца змешчаная тут опера «Лясное возера» Наталлі Арсеньевай.

Уражлівае, даволі абгрунтаванае, меркаванне пра неіснаванне арыгіналу ўсходнеславянскага помніка XII стагоддзя «Слова пра паход Ігараў». Як лічыць аўтар артыкула, склаў гэты твор у 1792 годзе багемскі навуковец-езуіт Ёсэф Даброўскі. Калі гэта так, дык ён быў чалавек геніяльны.

**Ірына ТОЎСЦІК**

# Герострат-строитель

*Российское телевидение сделало миллионы зрителей свидетелями унизительной сцены, возникшей во время заложения фундамента нового здания посольства РФ в Минске (белорусские коллеги предусмотрительно изъяли шокирующие подробности церемонии). В кадре: лужайка, Путин и Лукашенко.*

Непроницаемый Путин произнес стандартную для подобных церемоний речь. Затем на экране его антипод – взволнованный и озабоченный «наш» президент. Заметно, что «наш» рассчитывает на благосклонную реакцию «высокого» гостя. Как говорится, готов служить и прислуживать, дабы получить одобрение любой ценой. Как высока эта цена для всех нас, белорусов, он сообщит в конце своей речи, в который раз подтвердив, что он президент чужой, не наш, не белорусский.

Чужой белпрезидент семь лет демонстрировал свою антибелорусскость. Напомним лишь первые его подвиги: уничтожение национальной символики, запуск советской пророссийской машины русификации, включая добивание белорусского языка и внедрение в систему образования и пропаганды искаженных, фальсифицированных представлений о нашем прошлом, настоящем и будущем. Чтобы иметь поддержку Кремля, уничтожил зародыши белорусского возрождения, заложенные в 1991-1994 гг. Одновременно разворачивается наперсточная игра с Россией, где ставкой стала не только белорусская государственность, но и само существование белорусской нации, белорусского этноса. В ловких ладонях российско-белорусских политиканов-наперсточников то появляется, то исчезает под «колпаком-наперстком» самое святое для любого свободного народа и общества – суверенитет.

Наконец, Лукашенко осознает бесперспективность для себя лично «потешных» игр с Кремлем, проводимых во время Ельцина под кодовым названием «шапка Мономаха» (для белпрезидента!). После 6 лет аллергической реакции на само понятие «незалежность» (в его устах это бранное слово) он сдвигает с российско-белорусского игрового стола наперсток-колпак в свою сторону. Становится защитником белорусского суверенитета. Он наивно полагает, что после многочисленных интеграционных тусовок-операций под темным колпаком все еще находится золотая монета с надписью «белорусский суверенитет». Однако, обида на Кремль за обман, как и декларируемая защита суверенитета длились недолго. Впереди грозно маячат выборы нового президента. Предстоит борьба не за шапку Мономаха, а за собственное кресло. И «наш» герой вновь старается угодить Кремлю. Не исключено, что вдохновляют его новые «потешные» игры под кодовым названием «шапка Мономаха-2», которые вновь начала Лубянка.

Послушаем, что говорит белпрезидент с экранов российского телевидения. Слегка повернувшись к господину Путину, в предвкушении радостного сопереживания в унисон с хозяином (с заметным подобострастием) «наш» преподносит киндер-сюрприз российской аудитории. Он сообщает (в форме прозрачного намека) о судьбе еще не построенного комплекса зданий, именуемого «российским посольством в РБ». Цитирую по памяти: «Надеюсь, что в будущем мы дадим новое название данному комплексу». Вот вам и интеграция с сохранением суверенитета. Лукашенко признается, что «в будущем» РФ не должна иметь посольства в Беларуси. Переходя под опеку Москвы в ряд с другими субъектами федерации – Чечней, Башкортостаном, Смоленской губернией и т.д., Беларусь, согласно прогноза Лукашенко, избавится от иностранных посольств, борьбу с которыми он вел 7 лет. Вражеские послы будут выдворены с территории Белой Руси!

Вспомним скандальную акцию по выдворению послов из Дроздов. Она глубоко символична. Как мы видим, это было предзнаменованием, репетицией, первым этапом тотальной экстрадиции всех, включая россиян. Очевидно, что в комплексе строящихся зданий посольства РФ, если соизволит господин Путин, разместится резиденция полномочного представителя президента РФ по Северо-Западному округу (включая Молдову и Украину). Вот тогда и «дадут новое название данному комплексу» — резиденция вместо посольства. И «красному дому» (бывшая резиденция бывшего президента) «дадут новое название» – дом губернатора с губернаторским сквером. И Дому правительства на бывшей площади Независимости «дадут новое название», и т.д. Но это будет потом – в будущем, при достижении конечного этапа углубленной и необратимой интеграции-«слияния» белорусского народа с русским. А пока «Россия не готова», как неоднократно заявлял Лукашенко, к более стремительному «слиянию». Такой вариант интеграции весь мир оценил бы как захват – аншлюс соседнего государства. Москва хочет выглядеть благопристойно в глазах мирового сообщества. Процесс «слияния» должен быть постепенным. Зачем спешить, если достигнут полный контроль и управляемость внутриполитическим процессом в Беларуси и ее поэтапным втягиванием в состав России? Поэтому в ближайшие 5-10 лет в Беларуси сохранится шагреневая кожа суверенитета под «наперсточным колпаком», сохранятся посольства, парламент и президент. И этим президентом должен быть человек, гарантирующий сохранение и защиту интеграционного монстра, постепенно поглощающего нашу страну.

Кремль закрепляет успех, достигнутый на белорусском фронте. Он вынуждает белпрезидента приглушить «незалежнические» мотивы. Теперь уже не «шапка Мономаха», а возможность пребывать второй срок в «красном доме» зависит от послушания и готовности служить интеграционному сценарию. Как не вспомнить знаменитые рекламные щиты табачных компаний *LM* и *Marlboro*: «Зажги ночь» и «Бери от жизни все» Две фразы, позволяющие обозначить действия современного Герострата. Да, он сожжет свой город, свою страну, «зажжет ночь», но взамен просит для себя еще 5 лет власти, чтобы «брать от жизни все».

Можно понять и российских чиновников, которые, несмотря на перспективу ликвидации российского посольства в Беларуси, не жалеют денег на расточительный проект по строительству этого посольства. Здесь все продумано и рассчитано. Сработает знаменитый российский механизм коррупции: увод бюджетных денег на частные счета. Как правило, в России направляемые в регионы транши не достигают адресатов. Особенно в условиях любой нестабильности, характеризующихся военными действиями (Чечня) или сменой форм государственного устройства (белорусско-российская интеграция). Так что, не исключено, что комплекс зданий, после выделения средств и их «отмывания», по каким-то причинам строить вообще не будут. И тогда в будущем придется искать здания в Минске для полномочного представителя президента РФ в Северо-Западном крае. Самое подходящее — здание художественного музея на ул. Энгельса.

Все мы должны твердо усвоить, что наперсточные игры белпрезидента с Кремлем смертельно опасны для Беларуси. Это не бюрократическая возня, как кажется многим. В них заложена страшная угроза нашему народу и государству. Прежде всего потому, что основные рычаги власти в Беларуси уже в руках представителей по сути оккупационного режима. Их координируемые и планируемые действия на нашей земле направлены на расширение подконтрольной Москве территории. Смоленскую губернию к польским границам со всеми вытекающими последствиями: переплавкой белорусов в «новых смолян» и продвижением зоны экономической и технической отсталости в западном направлении. Это не сулит ничего хорошего не только для Беларуси, но и для самой России. Однако инерция московского имперского мышления обуславливает иррациональный характер действия кремлевских «интеграторов».




Все должны знать, что в центре Европы сохранился тоталитарный диктаторский режим. На его вооружении весь арсенал доведенных до «совершенства» средств КГБ-КПСС, используемых для подчинения народа и удержания власти. Наличие таких институтов, как парламент (Палата), Конституционный Суд и Конституция, наряду с псевдодемократическими процедурами выборов и референдумов может создать иллюзию сближения советского гособразования, восстанавливаемого Лукашенко в Беларуси, с европейской демократией. Увы, разрыв здесь не меньший, чем признанное различие между демократическим устройством на Западе и в СССР в 1950-1991 гг.

В Беларуси, как и в СССР, продолжает функционировать фабрика лжи и грез, подконтрольная президенту и его идеологическим опричникам, – электронные и печатные СМИ. Теперь коммунистическая иллюзия заменяется «интеграционными» обещаниями, иступленно внедряемыми в массовое сознание. В результате обмана народ лишен по сути возможности участия в принятии судьбоносных решений. Невозможно свободное волеизъявление там, где правительство использует ложь и насилие над оппозицией как главные инструменты управления страной. Белорусский новый-старый порядок установлен под контролем Кремля и по сценарию российских спецслужб, управляющих «интеграционным» процессом. Это фактически крупномасштабная тайная война. Надеемся на поддержку мирового сообщества в борьбе белорусского народа за независимость и свободу.

**Д-р Виктор КЛИНКО**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1728 Нумар падпісаны ў друк 28/06/2001 (15:00) Наклад – 9.630